# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ №86

кастрычнік 2005

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

«**НА ЯБЕНУЮ МАЦЯРУ НАМ ТАЯ РАСІЯ**» *Аўтэнтычнае выказванне некалькіх дуброўскіх жанчын.*

## ХЛУСЬНЯ І МАНА ЛУКАШЫСЦКАЙ ПРАПАГАНДЫ.

Фашыстоідны лукашысцкі рэжым напоўніцу вядзе псіхалагічную ды інфармацыйную вайну супраць беларускага народа і халодную вайну супраць суседніх дзяржаў. У гэтым ён мае пяшчотную падтрымку крамлёўскіх верхаводаў і калякрамлёўскіх шыза-фрэнікаў.

Гледачам «беларускага» тэлебачання неяк прадэманстравалі сталы з халоднай зброяй- шаблямі, кінжаламі- мо зь якога музею- і пераконвалі, што гэта зброя, якой нейкая «апазіцыя» зьбіраецца рэзаць народ.(У 2003 годзе ўлетку, сабраўшы расейскіх журналістых, Лука паведаміў ім, што «апазіцыя вострыць шаблі» і рыхтуе разьню.Тады ж ён назваў сваіх палітычных праціўнікаў «галаварэзамі»).Не дачакаўшыся разьні Лука вырашыў шчэ раз падпужаць свой электарат. Гэтым разам Палата прадстаўнікоў -а складаецца яна ўся з чыноўнікаў раённага і абласнога маштабу- прыняла без абмеркавання-навошта яно?- праект закону «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму.» Закон патрэбен для маскіроўкі дзяржаўнага тэрору, які паволі захоплюе Беларусь.

У гэтым жа рэчышчы гнюснай хлусьні напісаны ў «Советской Б.» фашыстоідны артыкул, які палохае народ «апазіцыяй» і фантасмагарычным апакаліпсісам хаосу, які быццам апануе наш край.

Органы адукацыі борзьдзенька так загадалі настаўніцам-сейбіткам разумнага і добрага- выліць той бруд на дзяцей.

Лука ілжэ!

Ніхто нідзе не бачыў апазіцыйныя банды. І нашага земляка Паўла Ляцягу забілі не яны, а неабачліва прыгрэтыя ім гадзюкі. Гэтыя гадзюкі выгадаваліся на бязладдзі, беспрацоўі, лайдацтве, паразітызьме, якія стварыў рэжым і амаральнасьці, якую ён штодня транслюе і дэманструе ў гіганцкай колькасьці.

Лука ілжэ і падманюе народ і сялян аграместачковым камунізмам. Ён ілжэ, махаючы прывідам 500даляравых заробкаў калі-небудзь, хоць абяцаны ім 4 гады таму 250 даляраў так і не наведалі нашую кішэню.

Беларусь стаіць на 107 месцы ў сьвеце па карупцыі. Чаму? Таму што яна стаіць на 152 месцы ў сьвеце па свабодзе друку.

Лука ілжэ пра посьпехі.

Чаму забілі нашага аднавяскоўца Паўла Ляцягу? Таму што з-за татальных лукашысцкіх посьпехаў за апошні год злачыннасьць у сельскай мясцовасьці вырасла на болей за 30 працантаў. Улада мусіла частку гарадзкіх міліцыянтаў перакінуць у сяло. Хіба гэта паможа?

Калі ў нас усё так квітнее то чаму дуброўскія хлопцы едуць на заробкі за белы сьвет у Расею? Ды таму, што беларускія заробкі душаць народ нішчымніцаю і галечаю.

Лукашысцкі рэжым ўкраў у нас цяпершчыну і будучыню нашай моладзі.

Менавіта Лука і ягоны рэжым ёсьць самыя экстрэмісты,бо яны давялі народ да краю бездані. Ніхто не можа нармальна жыць на 130 тысячах мінімальнага спажывецкага буджэту- 2 даляры ў дзень.

Ніхто і не павінен жыць на іх!

Калі ты незадаволены- тваё мейсца ў шарэнгах праціўнікаў Лукі. Нас болей. Трэба толькі азірнуцца па бакох.

**Лука не мае права быць кандыдатам у прэзідэнты!**

## ДАЖЫНКІ.

Тое, што Лука арганізуе сьвята дажынак, зусім няблага. Кепскі псіхоз вакол гэтага старажытнага земляробчага сьвята.

Сёлета, нягледзячы на зеўсаў грукат наконт чарговых мільёнаў тон сабранага збожжа, пось-пехаў небагата. Ураджайнасьць бульбы нікчэмная- утрая меньшая за ўраджайнасьць у Польшчы, збожжа-таксама.

І хоць прапаганда небутуе што ў Польшчы ўсё няправільна, усё не так-ураджай у іх чамусьці правільны.

Багата хто памятае, як на селектарнай нарадзе Лука патрабаваў ад гомельскага гаўляйтэра Якабсона даць магічны мільён тон збажыны. Якабсон сьпярша аднекваўся, а пасьля даў каманду раджаць ураджай.

У выніку, кажуць, у нашай дуброўскай латыфундыі прыпісалі 300 тон неісну-ючага віртуальнага збожжа.

300 тон- гэта няшмат, але на такім прыпісным харчы парася не вугадуеш.

На дажынках радасьць была рэальная, бо ўладальнікі нашай латыфундыі з «Гомель энерга» ўспомнілі на гароўнікаў і далі ім падарункі.

Дарэчы, кажуць, што між аграрных уладанняў «Гомельэнерга»тутэйшая латыфундыя- адна з самых стаханаўскіх. Канешне, ійе ў гэтым заслуга дырэктара-кантрактніка сп. У. Семянчука.Але і ўгана-раваныя работнікі файныя.

## ВЫБАРЫ Ў КАБУЛЬШЧЫНІ.

Другога чысла кастрычніка адбыліся выбары новага лаўніка сп. А. Крывалапа

замест выпертай жывасілам лаўніцы (чытай папярэдні нумар нашага лістка.) Так што сп. А. Крывалапа пасадзілі як бы чужое мейсца. Альтэрнатывы сп. А. Крывалапу не было.Што зьбіраецца рабіць сп. А. Крывалап на падоранай яму пасадзе старшыні сельсавету- было невядома.

Выбарчая камісія была створана з людзей,рупна адабраных і падабраных. Палітычна- гэта нулі.

Канешне, нават на такіх маленечкіх выбарах было папярэдняе галасаванне.

Сп. А. Крывалапа выбралі.

Праз нейкі час сабралі лаўнікаў-сабралася іх усяго дзевяць- і абралі з сп. А. Крывалапа так патрэбнага старшыню.(Шчэ раз нагадаем анекдот пра савецкія выбары. Бог прывёў да Адама Еву і кажа «Адам, выбірай сабе жонку».)

Цікаўным падкажам, што сп. А. Крывалап з 1960г, з в. Дзвесьніца, што на самым краі Рудобельскага раёну з таго боку.Дыпла-маваны эканаміст.Апошняя праца-настаўнік фізкуль-туры ў Кабульськай шко-лі.Мае жонку і двух дзе-так.

Наконт лаўнікаў: з Дубровы выехала Дайнека Ніна Трафімава,то раз яна не прадстаўляе нас- а хто нас прадстаў-ляе!!?- мо мае сэнс выб-раць новага лаўніка?

## МІЛІНКЕВІЧ АЛЯКСАНДР.

Цяпер можна адказаць на штурмавое пытанне, якім вярэдзілі душу кожнага апазіцыянера «Хто замест Лукашэнкі?»

Гэта Мілінкевіч Аляк-сандр з Гродна, кандыдат навук, з 1947 году. Не чулі? Не дзіва.Лука глу-шыць усіх.(Далей с.4)

## «УСЁ ДЛЯ НАРОДА!»

Прыехаўшы ў Лоеў з нагоды праводкі туды газу беларускі дыктатар ізноў меў нагоду пакрасавацца на тэлевізары.

Сабраўшы сваіх старчакоў ён ляпаў рукою па сталу і рыкаў «усё для народу!»

«Фруктаў і віна!», хочацца дадаць.

Нешта неканкрэтна роў Лука. Што значыць «усё»?

Беспрацоўе таксама? Цэны? Платная адукацыя і платная медыцына? Кесаравыя сечывы? Падвышаная злачыннасьць? Непрыстойная тэлерэклама? Смаркатыя тэлесерыялы? Кіслы хлеб?

«Советская Б.» для падціркі ў кажную хату?

Не, не па сіле дыктатару і старчакам даць «усё народу». Хай не ўзрушуюцца дачасна.

Расслабцеся, хлопцы, перадыхніце...

З той жа прапагандысцкаю мэтаю зарганізаваў дыктатар нараду пра ахову здароўя.

Абуралася адна пеньсіянэрка: «Як гэта ён дзіка крычаў на намесьніка міністра, пажылога чалавека. Я адразу ж пайшла ад тэлевізара.»

Дак даўно вядома, што ўсе дыктатары - хамелеоны.

На плакаце ён, ззяючы, туліць да сябе на лане піонэрку,бач, добры татка, а на тэлевізары раве на годнага беларускага чыноўніка.

Ну, што гэта за прэзідэнт? Яму даць бы вуду ў рукі, хай карасёў паловіць, нэрвы супакоіць.

## ПРА ПІЛІПКУ І ЛІПУ

Хлопчыку Пілiпку гадоў за дзесяць. Зусім самастойнае дзіця. Але здарылася так, што, прынюхаўшыся, бабу пачулі ад хлопчыка пах мочы.

Не, з здароўем у хлопчыка па частцы энурэзу ўсё дарма. Вось толькі памыцца ў нашых вёсках німа дзе.А мама Пілiпкі не надта ахайная маладзіца, любя ў пляшку пазірнуць. Дзе ўжэ тамака-ці тутака?- сына прыладзіць. Ды і без мамы хлопчык зьбегаў бы ў лазьню, але яе, дзякаваць народным шацілкаўскім старчаковым- німа. Зграя лаўнікаў-дэпутатаў тутэйшай годнасьці толькі шчэрыць зубы ў імпатэнтнай ўсьмешцы, маўляў, што му могам? Ну, ак ня можаце, дык нахрэн ву лаўнікі?

(Лаўнікамі называлі мясцовых дэпутатаў.)

Дзяўчынка Ліпа зусім малая. А таму і непасрэдная.Ак захоча есьці-а есьці дзецям заўсёды хочацца, расьці ж трэба!- яна йдзе да лаўкі.

Тамака дзеўкі адстойваюць за прылаўкам па 13 гадзін!- ахвіцыйна сем- за 300.000 рублёў і часам даюць малой які-небудзь прысмак. Ёсьць і добрыя душы, якія купляюць дзіцяці што-небудзь з ежы.

Ліпа мае і сястру, але тая старэйшая, таму саромеецца і не ходзіць з сястрою. Ліпіна мама мае неўладкаванае жыццё, жыве ніжэй за лукашэнкава калена, таму і дзеці гібеюць. Мамі сказалі, што возьмуць на працу ў арцель, калі зашыфруецца, але дзе ж грошы ўзяць на той шыфракод?

**На незаконным рэхверэндуме пра ягонае шчасьлівае трэцяе прэзідэнцтва і ягонае заможнае шчасьлівае жыццё паднявольныя паштары разносілі бясплатна «Советскую Б.»** На першай бачыне шчасны і красны дыктатар трымаў на лане шчасьлівую чысьценькую сыценькую піонэрачку.

І гэта не была дуброўская галодная Ліпка. Гэта не быў Пілiпка, ад якога пахла зусім не парфумай.Як не былі і вялікія тысячы іншых беларускіх дзетак, якім не пашчасьціла жыць пры цывілізаванай уладзе. Як не былі тысячы дзяцей сірот інвалідаў, што гібеюць у дзіцячых дамох. Рэжым абрыдзеў!

**ЧАС МЕСЬЦІ ШУМ З ХАТЫ!**

Піліпка і Ліпа - малыя і не галасуюць. То зрабі дзецям ласку:

**ПРАВЕТРЫ БЕЛАРУСЬ АД СМУРОДУ- МАЧЫ РЭЖЫМ БЮЛЕТЭНЕМ НА ВЫБАРЧЫМ УЧАСТКУ!**

(*Імёны дзяцей памяняныя.*)

**СВАБОДУ ПАЛІТЫЧНЫМ ВЯЗЬНЯМ У БЕЛАРУСІ!**

## БУЙНЫМ ЗЛАДЗЕЯМ ПАЛЕГЧАЕ.

Лука прыйшоў да ўлады пад сьцягам барацьбы з карупцыяй.Народ клюнуў на прыманку і разявіў рот, рыхтуючыся да відовішча.

Аказалася, што ўсе буйныя карупцыянеры паходзяць з дыктатаравага атачэння. (Вы іх памятаеце з мінулага нумару нашага баявеннага лістка.)Але дзе ж набрацца паплечнікаў, калі не даваць ім красьці? Ніхто не хоча быць такім «нішчым і крыстальна чыстым», як Лука. Таму, як гэта прыдумана для рознага сьмецця, чыноўнае карумпаванае сьмецце бу-дуць таксама «перапрацоў-ваць».Пра гэта Лука выдаў адмысловы ўказ-дэкрэт. Сэнс такі: калі чыноўнік накраў і яго спаймалі, то, як грэшнік, ён можа пакаяцца,то бо аддаць экспрапрыяваныя ў дзяржавы грошы назад і спакойна працягваць сваю службу прэзідэнту. Такім чынам запас чыноўнікаў і зладзеяў не паменее.

Трэба меркаваць, што пасьля аднаго-двух спайманняў чыноўнікі так натрэніруюцца гладка красьці, што іх і днём з агнём не выкрыеш.

Чыноўнік аўтаматычна стане новенькім, як Лука на пантрэці.

Ну,хто ж тады пасьмее сказаць пра карупцыю?!

У 1994 годзе Лука плакаў у Вярхоўныс Савеце, калі дэпутат ад БНФ Сяргей Антончык зрабіў даклад пра карупцыю самога Лукі.

Мінула дзесяць год вялі-кай карупцыі. Ёсьць знач ныя дасягненні-107 месца ў сьвеце.(Чым большае месца-тым болей карупцыі.)

Толькі ці хопіць у Беларусі багацця, каб задаволіць усіх зладзеяў?

І ці хопіць у нас цярплі васьці загружаць іхнія «пачышчаныя» кішэні?

---

## 80.000 ДАЯРА ІВАНОВА.

Прыстойны гароўны мужык Іваноў, які гарбаціць доярам на фірму ААА ООО РУП ПУП «Гомельдрэўэнерга» Дуброва/Віягра атрымаў за мінулы месяц нешта каля 80.000 рублёў ажно заробку.(US$40, понціі пілаты з «беларускага» тэлебачання!)Іванову такія грошы здаліся трохі малымі, бо гэныя сорак баксаў на месяц трэба разьдзяліць на сям"ю.

Таму і пайшоў ён да сп. У. Семянчука, дырэктара.

І што ж сказаў дырэктар?

........................

.......................

**/Упішы варыянт.а)Іваноў, я даю табе 250 баксаў.б) не наравіц-ца-можаш пайсьці в) бяры малаком і мукою/**

## Мілінкевіч Аляксандр.

Аб"яднаная апазіцыя -ад камуністаў да БНФ- пагадзіліся выставіць налета на выбарах прэзідэнта свайго кандыдата. Аляксандра Мілінкевіча супраць Аляксандра Лукашэнкі. (Клін клінам выбіваюць!)

Мілінкевіч працаваў ва ўніверсітэтах у Алжыры і Гродне, быў намесьнікам старшыні гарсавета г. Гродна, чалавек адукаваны і дасьведчаны, шмат чаго бачыў. Ягоны бацька быў добрым настаўнікам, меў ордэн Леніна, але Героем сацпрацы не стаўвучыўся пры Польшчы.(Так расейскія каланізатары баяліся гэнай Польшчы. Хто апёкся на малацэ, той і на ваду хукацьме!)

Відаць адно: Аляксандр Лукашэнка стаміўся. Пара яму пайсьці. Беларусь не бедная на разумных людзей.Супраць Лукашэнкі выбар будзе. Давайма зробім так, каб прозьвішча наступнага прэзідэнта не было «Лукашэнка».

Вядома, Лукашэнка пабойваецца народнага гневу, таму і цісьне на псіхіку: маўляў, я ўсёроўна перамагу, маўляўусе гаўно, а лепшага за мяне нямашака

Такіх лепшых можна назьбіраць цэлы прыпол за пяць хвілін, а плеш ён багата каму пераеў.

Чыноўнікі таксама ж не даўбешкі і калі дзяржаву зашкальвае ад прэзідэнцкіх выбрыкаў, то лепей своечасова даць яму пад сраку насцака, каб большай бяды не нарабіў.

## ІЗНОЎ ЗА СТАРОЕ...

У сярэдзіне лістапада Лука мае паехаць у Маскву да гаспадара Пуціна, каб выслухаць ягоны ультыматум.Ізноў будзе зьвягня пра «яднанне» Беларусі і Расеі, быццам Беларусь- асабістая маёмасьць дыктатара.Ужо за адно заіканне пра ліквідацыю незалежнасьці нашай Радзімы Луку трэба турнуць, як паганага ката.Гульня суверэ-нітэтам не толькі небясьпечная. Яна абражае дзяржаву і народ. Таму вызваліцца ад Лукігэта як выйграць вайну.

**НІЯКАГА ДАВЕРУ ХАКЕІСТУ-АМАТАРШЧЫКУ!**

## ЗАБОЙСТВА ПАЎЛА ЛЯЦЯГІ.

Забойства пеньсіянера -удаўца ўзрушыла дуброўцаў сваёй бессэнсоўнасьцю і жорсткасьцю: старога катавалі і прабілі галаву.

Падазроных узялі хутка.

Гэта 20гадовы М. і 18гадовы Дз., сёлетні гадаванец Дуброўскай школы. Напярэдадні яны спраўлялі дзень нараджэння, пілі, і, пэўне, захацелі яшчэ гарэлкі і грошай. Забойцы пралезьлі да старога, адчыніўшы акно ў сенцах. На галовах мелі каптуры з панчох, якія потым спалілі.

Міліцыя дзейнічала спраўна.

Матка малодшага падазронага, кажуць, вазіла хабар, але яе следчыя прагналі.

Матка другога шукае даведкі пра ягоную недзеяздольнасьцьён вучыўся ў дапаможнай школе.Соцыум у вёсцы разбураны, няма грама-дзянскае супольнасьці...

**Ведай:**

**Сьвятая Еўфрасіння Полацкая і арханёл Міхаілнябесныя заступнікі Беларусі.**

## Здарэнні.

Ладны стажок саломы згарэў увечары каля 21 гадзіны ў Кохна Рамана. Наба стаяў на пустцы ля селішча, таму нічога іншага не пацярпела. Аўтар(ы)падпалу невя-домы(я)

Чатыры сытыя гусі задушы ла ліса сярод белага дня 21.10 ў Леваковай Каці. Зьвер нахабна стаяў ля двара і нічога не баяўся. Мо які шалёны. З скрухаю Каця выкінула тушы: ветстанцыя параіла.

Дзевачку, вагою ажно дванаццаць хунтаў!, нарадзіла Дайнека/Трацякова Людміла ўд алёкіх Каленкавічах.

Віньшуем маладую маму, тату Аляксандра, дзеда Мішу і бабу Маню.

Пабраліся шлюбам **Тукач Аляксандр** і **Намочанка Ірына.**

Жадаем маладым шчасьця, багацця і ладу.

**Пайшоў ад нас ЛЯЦЯГА Павел Сяргееў. Забіты рабаўнікамі,хай спачывае ў роднай зямлі.**

Пайшоў ад нас **Хапугін Мікалай Мікалаеў.**

Падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы.

Доўгі час ён быў тутэйшым вахмайстрам.

Нязлосны і вясёлага нораву, спадар Мікалай нелюбіў няпраўды.

Хай яму зямля будзе пухам а родным і сябрам- добрыя ўспаміны.

Друкарня імя І. Масьціцкага
100 асобн. Як заўсёды.